№ 71 (3914)

12 верасня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

# Цена спокойствия

**Простая задачка на логику.**

**Есть страна "Б". В ней руководитель чист, как детские слезы; полон сил, компетентен, опытен. Под стать себе назначает правительство, не терпит коррупцию, лично контролирует все. Страна стабильна: много лет мирно сеет, мирно пашет, и даже природа ей благоприятствует — ни наводнений, ни землетрясений, и только начало зимы каждый раз превращается в стихийное бедствие.**

**Есть страна "У". И вот ее будто кто сглазил. Ни одного достойного руководителя. Вор вора приводил во власть, воровали миллиардами, строили дворцы с золотыми унитазами, а в качестве потешных сувениров дарили друг другу батоны из чистейшего золота. Лихорадило страдалицу, как при малярии: то красные к власти придут, то оранжевые; то днепропетровские, то донецкие, то киевские. Заводы стоят, народ стонет, власть гопака выплясывает. А на закуску — война.**

**А теперь вопрос: в какой стране национальная валюта должна быть более стабильной?**

**До известных событий в Украине 1 доллар стоил около 8 гривен. Сейчас — 13. То есть национальная украинская валюта обвалилась. Оно и не удивительно: Майдан, война, бегство правительства вместе с казной, многолетнее купание чиновников и олигархов в государственных деньгах, многочисленные "семьи", которые надо было содержать за счет народа…**

**Шарахнуло все это по гривне более чем в полтора раза. Беда!**

**Но вспомните, как без войны и революций, при наикомпетентнейшем правителе и назначенном им главе Нацбанка (которому за выдающиеся заслуги еще и звание "Герой Беларуси" было присвоено) обвалился белорусский рубль. Даже украинцы это помнят.**

**— Помню, был я в Беларуси в 2010 году. Доллар стоил 3000 ваших рублей. Приехал в конце 2011-го — 8 тысяч. Я обомлел. Интересно, сколько сейчас? — интересовался у меня недавно один собеседник.**

**— Десять с половиной тысяч рублей, — отвечаю.**

**— И это без всякой войны?.. — аж присвистнул он. — Да, у вас тоже не так все просто.**

**"Не так все просто" — это мягко сказано.**

**Коррупция, война и революция увели украинскую гривну в разы меньше, чем спокойная, мирная жизнь — белорусский рубль. В конце 2010-го курс составлял 7,96—8 гривен за доллар. Средний курс продажи наличного доллара за 2011 год вырос с 8,018 до 8,058 гривны. В 2012-м украинская национальная валюта была признана одной из самых стабильных валют развивающихся рынков: на конец года 1 доллар стоил 8,0891 гривны. Наконец, 2013-й год в Украине завершился Майданом и курсом 8,22 гривны за доллар. А дальше были революция, аннексия, безвластие, война…**

**Мы все это время мирно спали в своей постели, уверенные, что во главе страны ответственный правитель, который ничего подобного не допустит.**

**19 декабря 2010 года, в день последних президентских выборов, 1 доллар можно было купить за 3005 белорусских рублей (официальные данные Национального банка). Зато сегодня официальный курс Нацбанка — 10.470 рублей за доллар.**

**Какая война велась у нас, если курс за это время обвалился в 3,5 раза?! Получается, мы пережили в три с половиной раза больше Майданов, Крымов, Новороссий… Прокормили в три с половиной раза больше Януковичей и Пшонок с их золотыми батонами, дворцами, любовницами, сыновьями, друзьями и свояками. И все это под рассказы об опасности перемен, важности спокойствия и стабильности, уверения в невероятной компетентности нашего руководства и неутомимой борьбе с коррупцией.**

**Не делайте мне смешно, как говорят в Одессе! Просто еще не пришло время выставить на всеобщее обозрение наши золотые батоны и "скромные имения".**

**Украина тяжело, болезненно выздоравливает и выздоровеет. А вот мы еще даже не приступали к лечению. Мы еще даже не понимаем, насколько тяжело больны.**

ВІЗІТ

# Не адліга

*Без вызвалення палітвязняў паляпшэнне адносін паміж ЗША і Беларуссю немагчыма*



Упершыню за шмат гадоў Беларусь з візітам наведала дэлегацыя высокапастаўленых амерыканскіх чыноўнікаў. Але гэта не азначае, што крызіс у адносінах паміж нашымі краінамі скончаны.

Пазіцыя ЗША адносна беларускіх палітвязняў застаецца нязменнай. Менавіта гэтая праблема перашкаджае паўнавартаснаму супрацоўніцтву. Пра гэта беларускім журналістам заявіў намеснік памочніка дзяржсакратара па пытаннях дэмакратыі, правоў чалавека і працы **Томас МЕЛІЯ** падчас брыфінгу ў Мінску. Ён паведаміў, што пытанне пра палітвязняў гучала падчас сустрэчы дэлегацыі ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі. "*ЗША заўсёды заклікалі вызваліць усіх палітвязняў у Беларусі. Падчас сустрэчы са сваякамі палітвязняў мы пацвердзілі, што гэтае пытанне выклікае нашу заклапочанасць",* — сказаў спадар Меліа.

Наконт пазіцыі афіцыйных беларускіх улад Томас Мелія паведаміў: "*Іх пазіцыя на працягу некалькіх гадоў не мяняецца. Яны працягваюць называць іх "так званымі палітвязнямі". І заява МЗС адлюстроўвае тыя разыходжанні, якія ёсць у нас па гэтым пытанні*".

Справа ў тым, што ў афіцыйным паведамленні беларускага МЗС па выніках сустрэчы не было нават згадак аб тым, што пытанне палітвязняў абмяркоўвалася. З міжведамаснай дэлегацыяй ЗША сустракаўся намеснік міністра замежных спраў **Аляксандр ГУР'ЯНАЎ**.

Разам з Томасам Мелія ў сустрэчы ўдзельнічалі памочнік адміністратара Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці **Пэйдж АЛЕКСАНДЭР**, намеснік памочніка міністра абароны ЗША **Эвелін ФАРКАС**, Часовы Паверaны ў Справах ЗША ў Беларусі **Скот РОЛАНД**, а таксама супрацоўнікі Дзярждэпартамента, рэгіянальнага аддзялення Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці і амбасады ЗША ў Мінску.

Падчас брыфінгу журналісты закранулі і ўкраінскую тэму. **Томас Мелія** сказаў: "*Мы задаволены тым, што беларускія ўлады не пайшлі настолькі далёка, каб прызнаць анексію Крыма. Мы выказваем задавальненне і тым, што Мінск пагадзіўся прыняць у сябе сустрэчу па пошуку шляхоў вырашэння ўкраінскага канфлікту*".

Што да пацяплення адносін паміж Мінскам і Вашынгтонам, то **Томас Меліа** запэўніў: "*Мы тут дзеля таго, каб вывучыць магчымасць далейшага ўзаемадзеяння*" — і выказаў спадзяванне, што наступныя прэзідэнцкія выбары ў нашай краіне будуць празрыстымі і пройдуць з удзелам міжнародных і мясцовых назіральнікаў.

З 8 па 11 верасня сябры дэлегацыі мелі сустрэчы з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці, сваякамі палітвязняў, СМІ, а таксама з прадстаўнікамі міністэрстваў абароны, эканомікі і адукацыі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ДАРЭЧЫ

## Ці ведаеце вы, што...

Некаторым беларусам, каб атрымаць візу ў ЗША, цяпер не трэба ехаць у Маскву, Кіеў альбо Варшаву. З гэтага тыдня прама ў Мінску могуць атрымаць візы тыя, хто звяртаецца за прадаўжэннем (аднаўленнем) неіміграцыйных віз катэгорый:

H — часовае працаўладкаванне;
L — пераход у межах адной кампаніі;
P — спартсмены, артысты, дзеячы мастацтваў;
O — асобы з выдатнымі здольнасцямі;
R — рэлігійныя дзеячы.

Акрамя таго, прама ў Мінску візы могуць атрымаць людзі, старэйшыя за 70 гадоў.

Усе астатнія па-ранейшаму мусяць звяртацца за візамі ў пасольствы ЗША ў суседніх краінах.

ПОЛИТИКА

## *Сегодня вступают в силу санкции ЕС против России*

*Послы стран Европейского Союза согласовали новый пакет санкций против России в связи с украинским кризисом. Санкции должны вступить в силу сегодня. Об этом сообщили дипломаты в Брюсселе.*

На фоне этих новостей в четверг доллар и евро ускорили рост на "Московской бирже": доллар обновил исторический максимум, а рубль заметно снизился по отношению к бивалютной корзине, сообщает агентство "Интерфакс".

Как сообщали дипломаты, новый пакет санкций направлен против российских нефтяных компаний "Роснефть" и "Транснефть", а также "Газпромнефть". Ограничен их доступ к международным рынкам капитала, что особенно сильно может ударить по "Роснефти", которая в прошлом месяце запросила у российского правительства заем в размере 42 млрд долларов.

Санкции также включают запрет на въездные визы и замораживание активов российских чиновников и организаций, включая лидеров сепаратистов, действующих на востоке Украины.

УЧОРА

## *Хопіць піць!*

Беларуская праваслаўная царква прыняла рашэнне праводзіць кожны год 11 верасня Агульнацаркоўны дзень цвярозасці. Учора ён прайшоў упершыню Ва ўсіх парафіях БПЦ здзяйсняўся малебен за тых, хто пакутуе на хваробу "винопития", — удакладнілі святары.

Цікава, што ўпершыню дзень цвярозасці быў абвешчаны праваслаўнай царквой яшчэ ў 1913 годзе. І вось цяпер прыйшлося аднаўляць.

СУД

## *Пракуратура стала на бок актывісткі кампаніі «Гавары праўду!»*

*Гомельская актывістка кампаніі "Гавары праўду!" **Ірына УСХОПАВА** выйграла суд па аднаўленні на працы. Цяпер ёй выплацяць заработную плату за вымушаны прагул, і на яе карысць будзе спагнана кампенсацыя за нанясенне маральнай шкоды. А ўсе выдаткі суда ўскладзены на адміністрацыю, якая парушыла закон.*

Сёлета Ірына Усхопава балатавалася ў Гомельскі абласны Савет ад кампаніі "Гавары праўду!" па Мазураўскай выбарчай акрузе. Тады жанчына працавала простай прыбіральшчыцай у Гомельскім гарадскім ваенным камісарыяце. Хто б мог падумаць, што з-за палітыкі ў нашай краіне можна пазбавіцца нават такой сціплай пасады?!

— *Мая начальніца стала пісаць на мяне дакладныя, інфармацыя ў якіх не адпавядала рэчаіснасці,* — сцвярджае Ірына Усхопава. — *Я, са свайго боку, таксама стала пісаць, што начальніца на мяне ўзводзіць паклёп. Неяк я захварэла і трапіла ў бальніцу. Прыходжу да ўрача, а ён кажа, што мяне шукае міліцыя. Праз кожныя тры дні міліцыянер па просьбе ваенкамата пытаўся, калі я выйду на працу. Пры тым, што я паведаміла начальству, што знаходжуся на бюлетэні. Прыдзіркі працягваліся, а потым мяне зусім звольнілі за нібыта неадназоразовае невыкананне службовых абавязкаў. Я звярнулася ў суд. Бо да сваіх абавязкаў стаўлюся добра, на працу прыходжу своечасова*.

І — незвычайная сітуацыя для нашай краіны — суд устаў на бок жанчыны.

Асноўным аргументам на карысць Ірыны паслужыла тое, што яна за сваю працу рэгулярна атрымлівала прэміі. Хаця звольнілі яе "за нядбалае стаўленне да працы". Пагадзіцеся, што гэтыя факты відавочна супярэчаць адзін аднаму.

У выніку суд вынес рашэнне на карысць Ірыны. Адміністрацыя не пагадзілася з такім рашэннем, аднак Усхопава выйграла і суд касацыйнай інстанцыі. Віншуем з маленькай, але перамогай!

ПАЛІТКУХНЯ

## *Форс-мажор*

*Каля 20 палацаў культуры і канферэнц-залаў у Мінску адмовілі Партыі БНФ у прадастаўленні памяшкання для правядзення справаздачна-выбарчага з'езда.*

Палац культуры Мінскага трактарнага завода, дзе ў апошнія гады праходзіла некалькі партыйных з'ездаў, на гэты раз таксама "пайшоў у адказ". Апошняя адмова прыйшла ад Рэспубліканскага палаца культуры імя Шарко, нават нягледзячы на тое, што Мінгарвыканкам не меў пярэчанняў наконт правядзення тут партыйнага мерапрыемства.

У выніку правядзенне з'езда Партыі БНФ, які павінен адбыцца ў гэтую суботу, знаходзіцца пад пагрозай зрыву. Але на дадзены момант на мерапрыемства вылучана каля 200 дэлегатаў, і ўсе яны маюць намер, нягледзячы ні на што, прыехаць у Мінск.

НАДВОР'Е

## *Курткі і плашчы даставаць яшчэ рана*

Камфортнае надвор'е чакаецца ў Беларусі на выхадных.

*"У чацвер атмасферны фронт з Заходняй Еўропы паспрабаваў змяніць характар надвор'я. Павольна прасоўваючыся на ўсход, ён дайшоў да цэнтральных раёнаў Беларусі, дзе прайшлі моцныя дажджы,* — расказала галоўны сіноптык **Людміла Парашчук.** — *Але цяпер пад націскам усходняга антыцыклону фронт павярнуў назад і вяртаецца на тэрыторыю Польшчы*".

У пятніцу і на выхадных надвор'е на тэрыторыі Беларусі будзе фарміравацца пад уплывам вобласці павышанага атмасфернага ціску. Таму будзе пераважна без ападкаў. Ноччу і раніцай месцамі магчымы туман. Вецер чакаецца паўднёва-ўсходні слабы. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 7—14 градусаў, у дзённыя гадзіны паветра прагрэецца да 20—26 градусаў цяпла.

*"На пачатку наступнага тыдня ўплыў на характар надвор'я ў Беларусі пачне аказваць скандынаўскі антыцыклон",* — распавяла Людміла Парашчук. Пад яго ўплывам чакаецца перавага сухога надвор'я, хаця стане крыху свяжэй. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 4—9 градусаў, днём паветра прагрэецца да 17—22 градусаў. Цяплей будзе па паўднёвым захадзе, дзе ноччу чакаецца плюс 10—12 градусаў, днём — да 24 градусаў вышэй за нуль.

СІТУАЦЫЯ

## *Дайшло да пагроз*

Віктар Статкевіч, бацька экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча, і жонка апошняга Марына Адамовіч падалі ў міліцыю заяву па факце пагроз.

А здарылася вось што. 88-гадовы Віктар Статкевіч атрымаў на свой хатні адрас у Баранавічах ананімны ліст. Яго адправілі не па пошце, а проста ўкінулі ў паштовую скрыню. На канверце надпісы накшталт "Аллах акбар!", "Халуям ЦРУ" і таму падобнае. У лісце пагрозы бацьку і жонцы Статкевіча. Акрамя таго, на ручку дзверы кватэры Віктара Паўлавіча невядомыя павесілі георгіеўскую стужку.

Як распавёў Віктар Статкевіч, у гарадскім аддзеле міліцыі іх сустрэлі вельмі ветліва, прынялі заяву. З маладым супрацоўнікам міліцыі размова ішла амаль дзве гадзіны. Але ці азначае гэта, што міліцыя знойдзе вінаватых?

КАДРЫ

## *Лукашенко произвел перестановки в Совбезе*

*Александр Лукашенко произвел кадровые перестановки в Совете безопасности и собственной Службе безопасности.*

Глава государства освободил генерал-майора милиции Александра Коновалова от должности заместителя Государственного секретаря Совета безопасности Беларуси.

Александр Лукашенко также назначил полковника Андрея Втюрина заместителем Государственного секретаря Совета безопасности, освободив его от должности начальника Службы безопасности президента Республики Беларусь.

Соответствующие указы глава государства подписал 11 сентября, сообщает пресс-служба президента.

БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ

# ... а ім не страшна

Незадаволенасць працай Мінгарвыканкама і кіраўніка сталічнай "вертыкалі" Мікалая Ладуцькі кіраўнік дзяржавы выказваў не аднойчы.

Вось толькі некаторыя прыклады.

*"Мы ўважліва паглядзелі на ўсіх паверхах вашай працы — бюракратызм жудасны, з людзьмі размаўляць не ўмееце, да здзекаў даходзіць... Бюракратызм, асабліва ў гарвыканкаме, пышна квітнее... Замежнікі прывезлі грошы, будуюць, а яны іх па паўгода трымаюць у прыёмнай. Абяцаюць — не робяць. Гэта што, вы такім чынам намякаеце і выкручваеце людзям рукі, каб яны вам хабар далі?"*

Гэта былі словы, сказаныя на нарадзе па інвестыцыях у Мінску і адрасаваныя персанальна Ладуцьку.

*"Мінскі гарвыканкам цалкам з карупцыянераў сёння сфарміраваны, якія наверсе сядзяць, і хай на мяне не крыўдзяцца, факты гэтага ў наяўнасці — першы намеснік у месцах не гэтак аддаленых. І гэта пры такіх хабарах — 250 тысяч долараў! Грошы немалыя. Гэта таксама шмат аб чым гаворыць",* — гэта было сказана ўжо на нарадзе па праблемах будаўнічай галіны.




**Мікалай Ладуцька ў цэнтры.**

А ўжо колькі разоў Лукашэнка выносіў Ладуцьку "апошняе кітайскае папярэджанне" і пагражаў звальненнем — дык і не злічыць. І што?

Учора кіраўнік дзяржавы ўручаў узнагароды. Сярод тых, хто іх атрымаў, — той самы Мікалай Аляксандравіч Ладуцька. Кіраўніку Мінска за выдатную працу і асаблівыя заслугі быў уручаны ордэн Айчыны III ступені.

Як кажуць: без каментарыяў.

ПОДСЧИТАЛИ

## *Богатые и бедные*

*По данным Национального статистического комитета, номинальная начисленная заработная плата работников Беларуси в июле 2014 года составила 6 миллионов 455 тысяч 300 рублей. По сравнению с июнем текущего года она увеличилась на 3,2 процента. Однако в реальном выражении относительно июля 2013 года она снизилась на 1,3 процента.*

**По регионам ситуация выглядит так:**

— Брестская область — 5.734.900 рублей;
— Витебская область — 5.710.900;
— Гомельская область — 6.123.000;
— Гродненская область — 5.846.200;
— Минская область — 6.548.200;
— Могилевская область — 5.729.300;
— Минск — 8.296.000 рублей.

Таким образом, самыми низкими зарплаты по-прежнему остаются в Витебской области.

Для сведения: согласно статистике, наибольший размер номинальной начисленной заработной платы фиксировался в июле в нефтепереработке Минска, наименьший — в сфере социальных услуг Гродненской области. Разрыв между уровнями заработных плат работников названных отраслей экономики в этих регионах достигал 4,16 раза.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
12 ВЕРАСНЯ 2014 г.

ПРЭЦЭДЭНТ



# Канюк супраць Козіка: хто каго?



Пракуратура прыпыніла дзеянне Калектыўнага працоўнага дагавора на Бабруйскім заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў. Пракуратура палічыла, што гэты дакумент носіць дыскрымінацыйны характар у дачыненні да працаўнікоў, якія ўваходзяць у Свабодны прафсаюз Беларускі.

Факт дыскрымінацыі быў абнародаваны на міжнародным семінары з удзелам прадстаўнікоў Міжнароднай арганізацыі працы, беларускага ўрада, Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, Міністэрства юстыцыі, МЗС, Генеральнай пракуратуры, які праходзіў у Мінску 9—10 ліпеня. Прадстаўніца Генпракуратуры на тым семінары папрасіла прадставіць ёй усе дакументы. Справу перадалі Бабруйскай пракуратуры.

У калектыўнай дамове былі два пункты, якія распаўсюджваліся толькі на сяброў афіцыйнай Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Гэта выплата дапамогі пры нараджэнні дзіцяці і матэрыяльная дапамога на аздараўленне пры сыходзе ў адпачынак. Згодна ж з Працоўным кодэксам, калектыўная дамова распаўсюджваецца на ўсіх працаўнікоў. У выніку Бабруйская пракуратура на падставе Канстытуцыі і заканадаўства прызнала гэтыя пункты дыскрымінацыйнымі па прыкмеце прафсаюзнай прыналежнасці, а таксама ўбачыла ў іх прымус да ўступлення ў ФПБ.

Шум узняла сама Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі. Па крайняй меры многія менавіта так расцанілі выступленне старшыні ФПБ Леаніда Козіка на пасяджэнні прэзідыума федэрацыі, а таксама ў прафсаюзнай газеце "Беларускі час". Кіраўніцтва ФПБ запатрабавала ад Генеральнай пракуратуры адмяніць рашэнне пракуратуры Бабруйска і аднавіць дзеянне калектыўнай дамовы на Бабруйскім заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў. І цяпер пытанне стаіць адназначна: хто каго — Козік пераможа Генеральнага пракурора Канюка ці, наадварот, Канюк Козіка.

— На жаль, нават гэты рэдкі выпадак спробы пракуратуры аднавіць законнасць і справядлівасць у дачыненні да незалежных прафсаюзаў і іх членаў сустрэў хваравітую рэакцыю з боку чыноўнікаў ФПБ, — адзначае старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандр Ярашук.** — Чым яшчэ раз выявіў сапраўдны твар гэтай структуры і яе кіруючай вярхушкі. Бо не сакрэт, што менавіта палітыка кіраўніцтва ФПБ прымушае адміністрацыі прадпрыемстваў да дзеянняў, якія маюць далёка ідучыя наступствы.

Так адбылося і на Бабруйскім заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў. Мала таго, што, паддаўшыся ціску ФПБ, кіраўніцтва завода стала на слізкі шлях парушэння Канстытуцыі і законаў краіны, але адначасова, заключыўшы дыскрымінацыйны калектыўны дагавор, яно стварыла на заводзе сацыяльнае напружанне, супрацьпаставіўшы адных работнікаў іншым. І вось пытанне: паважаным кіраўнікам прадпрыемства няма чым заняцца, акрамя як караць матэрыяльна, зневажаць чалавечую годнасць сваіх жа, прычым лепшых, рабочых, толькі за тое, што яны рэалізавалі гарантаванае Канстытуцыяй краіны права ўвайсці ў склад Свабоднага прафсаюза, а не ў прафсаюз ФПБ?

Разумею, што пахвала з маіх вуснаў у адрас органа, які ажыццявіў тое, чым і павінен займацца, — нагляд за належным выкананнем у краіне Канстытуцыі і законаў, прагучыць вельмі двухсэнсоўна. Але тое, што здарылася, дае падставу выказаць пэўны, няхай вельмі асцярожны, аптымізм, што не ўсё так блага і безнадзейна ў нашай краіне, што ёсць яшчэ людзі і структуры, якія разумеюць, да якіх непапраўных наступстваў можа прывесці краіну практыка прававога нігілізму, зневажання Канстытуцыі і законаў.

**Сяргей НАВАЖЫЛАЎ.**

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## *Можа, з дапамогай АБСЕ лёд зрушыцца...*

*Афіцыйны прадстаўнік Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) па пытаннях свабоды сродкаў масавай інфармацыі* ***Дуня Міятавіч*** *на наступным тыдні наведае Мінск.*

Нагодай для яе візіту ў сталіцу Беларусі стане семінар-трэнінг па ўзаемадзеянні праваахоўных органаў і СМІ Беларусі, які пройдзе ў панядзелак, 15 верасня.

Нагадаем, што затрыманні журналістаў — гэта для беларускіх праваахоўнікаў звычайная справа. Больш за тое, некаторых нашых калег, якія выконвалі на акцыях пратэсту свае прафесійныя абавязкі, нават не раз судзілі. Такая практыка абурае прафесійную журналісцкую супольнасць ва ўсім свеце. І толькі зараз афіцыйныя беларускія ўлады пагадзіліся распачаць дыялог па гэтай праблеме.

Але наспела іншая праблема. У чэрвені гэтага года Дуня Міятавіч выказала занепакоенасць у сувязі з павелічэннем колькасці штрафаў, накладзеных у апошнія месяцы ў Беларусі на журналістаў, якія не атрымалі афіцыйнай акрэдытацыі:

*"Акрэдытацыя не павінна быць ліцэнзіяй на працу, і яе адсутнасць не павінна абмяжоўваць журналістаў у магчымасці працаваць і свабодна выказваць сваю думку. Усе журналісты павінны мець такія самыя прафесійныя правы, як журналісты зарэгістраваных СМІ, уключаючы права на пошук і распаўсюджванне інфармацыі",* — сказала Дуня Міятавіч.

АФІЦЫЙНА

# Актыўнасць на мяжы

Кіраўнік Беларусі падпісаў указ №433 "Аб унясенні змяненняў ва ўказ прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 9 сакавіка 2009 года №125", якім усталёўваецца памежная тэрыторыя ў межах адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія прымыкаюць да дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй. У кароткім афіцыйным каментарыі сказана: "*Гэта дазволіць стварыць умовы для рэалізацыі ўскладзеных на органы памежнай службы задач і функцый у межах гэтай мясцовасці, а таксама арганізаваць належнае ўзаемадзеянне з пагранічнымі органамі Расійскай Федэрацыі, накіраванае на рашэнне задач па выяўленні і спыненні транзітнай незаконнай міграцыі, наркатрафіку і незаконнага перамяшчэння праз мяжу таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў*".

Да падпісання ўказа памежная тэрыторыя ў Беларусі была вызначана з краінамі ЕС і Украінай. Грамадзяне Беларусі добра ведаюць, што знаходзіцца ў памежнай зоне без адпаведнага дазволу нельга. За гэта могуць пакараць і штрафам, і нават арыштам. Але прэс-сакратар Дзяржаўнага пагранічнага камітэта **Аляксандр ЦІШЧАНКА** запэўнівае, што наданне статусу памежных зон тэрыторыям на мяжы з Расіяй не будзе мець ніякіх прававых наступстваў для беларусаў. Ён сцвярджае, што ўвядзенне памежнай тэрыторыі не азначае стварэння самой мяжы.

Дарэчы, дзяржаўная мяжа паміж Расіяй і Беларуссю існуе ад 1993 года, згодна з пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі. Будуецца яна па адміністрацыйна-тэрытарыяльным прынцыпе, спецыяльнымі дамовамі яна не вызначана, на тэрыторыі ніяк не пазначана. Іншымі словамі, ні дэмаркацыя, ні дэлімітацыя мяжы не праведзена.

Працягласць беларускай мяжы складае 2969 кіламетраў. Пры гэтым ледзь не палова яе прыпадае на мяжу з Расіяй — 1283 кіламетры. Але дзе канкрэтна праходзіць мяжа, з упэўненасцю сказаць нельга. Усе памятаюць, як у 1995 годзе Аляксандр Лукашэнка і старшыня ўрада Расіі Віктар Чарнамырдзін выкапалі памежны слуп на беларуска-расійскай мяжы, падкрэсліваючы сур'ёзнасць намераў Мінска і Масквы да інтэграцыі. Зараз пра ўкопванне слупоў размова, магчыма, і не ідзе, але вырашана ўзгадніць і зафіксаваць, дзе канкрэтна заканчваюцца межы адной дзяржавы і пачынаецца тэрыторыя іншай. Не выключана, што гэта ўскосна звязана з украінскімі падзеямі. Справа ў тым, што Украіна і Расія таксама не праводзілі дэмаркацыю мяжы, што дадало цяжкасцяў украінскаму боку падчас узніклага канфлікту.

Цікава, што за тры дні да падпісання ўказа аб узмацненні расійска-беларускай мяжы Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №422 "Аб дэмаркацыі Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь з Украінай".

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЗА РУЛЁМ

# Бензін яшчэ будзе даражэць

9 верасня на АЗС краіны з'явіліся новыя цэннікі. Адпускныя цэны на ўсе віды паліва павялічыліся ў сярэднім на 4,1%. Сёлета гэта ўжо трэцяе падаражанне аўтамабільнага паліва. Папярэдняе адбылося менш за месяц таму — 19 жніўня. І тады цэны падскочылі амаль на столькі ж — на 4,5%. Зараз пасля рашэння "Белнафтахіма" прывязаць кошты на паліва да долара ЗША стала зразумела: пры той плывучай девальвацыі, якую мы назіраем, у гэтым годзе кошты на бензін зменяцца яшчэ не раз.

Цяпер кошт 1 літра самага папулярнага сярод беларускіх аўтааматараў паліва — Аі-92-К5-Еўра — будзе каштаваць 1 долар ЗША. І, як патлумачылі ў "Белнафтахіме", *"будзе перыядычна індэксавацца ў залежнасці ад змены курсу беларускага рубля ў адносінах да долара ЗША. Перагляд цэн на астатнія віды нафтапрадуктаў будзе адбывацца пры захаванні існуючых цэнавых суадносін паміж бензінам Аі-92-К5-Еўра і іншымі маркамі паліва".*

Дарэчы, у мінулым годзе паліва даражэла 5 разоў, у 2012-м — 4 разы, а вось у 2011 годзе — 11 разоў. Так што яшчэ можам пабіць рэкорд 2011 года.

### Як мяняліся кошты на паліва ў 2014 годзе (кошт за літр у бел. рублях)

| Марка паліва | Кошты 8.07.2014 | Кошты 19.08.2014 | Кошты 09.09.2014 |
|---|---|---|---|
| ДТ-К4 | 10.100 | 10.500 | 10.950 |
| ДТ-К5 | 10.300 | 10.700 | 11.150 |
| Аі-92-К3 | 9100 | 9500 | 9900 |
| Аі-92-К5-Еўра | 9300 | 9700 | 10.100 |
| Аі-95-К5 | 10.000 | 10.400 | 10.850 |



ПАРАЎНАЕМ!

## *Паляк за сваю зарплату можа купіць 787 літраў дызпаліва, беларус — 582*

Кожны раз, калі павышаюцца кошты на аўтамабільнае паліва, беларусам тлумачаць: маўляў, усё роўна яны значна ніжэйшыя, чым у Еўропе. Яно, можа, і так, але ў Еўропе і заробкі адрозніваюцца ад нашых, і, калі падлічыць, колькі літраў паліва на сярэднюю зарплату можа купіць паляк, чэх альбо немец, атрымліваецца, што мы значна прайграем па гэтым паказчыку.

Мы склалі табліцу коштаў на паліва ў розных краінах Еўропы і побач пазначылі сярэднія заробкі ў гэтых краінах. Што тычыцца Расіі, то паказчыкі цэннікаў на АЗС спісалі ў Смаленску, бо зразумела, што ў Маскве і Смаленску сярэдні заробак розны, масквічы зарабляюць значна больш.

| Краіна | Кошт у еўра за 1 літр АІ-92 | Кошт у еўра за 1 літр АІ-95 | Кошт у еўра за 1 літр дызпаліва | Сярэдняя зарплата па краіне ў еўра |
|---|---|---|---|---|
| **Беларусь** | **0,74** | **0,80** | **0,82** | **478** |
| Расія | 0,65 | 0,73 | 0,68 | 670 |
| Польшча | — | 1,24 | 1,27 | 1000 |
| Украіна | 0,93 | 1 | 0,98 | 275 |
| Літва | — | 1,35 | 1,29 | 690 |
| Латвія | — | 1,25 | 1,24 | 700 |
| Эстонія | — | 1,26 | 1,25 | 960 |
| Чэхія | — | 1,31 | 1,28 | 1000 |
| Германія | — | 1,59 | 1,39 | 3400 |

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

БАРОМЕТР

## Сотні будаўнічых кампаній пазбавіліся права працаваць у Беларусі

Паводле слоў першага намесніка міністра архітэктуры і будаўніцтва Беларусі **Аляксандра Кручанава,** за час правядзення атэстацыі будаўнічых кампаній, якая пачалася ў сакавіку 2014 года, сотні кампаній былі пазбаўлены права на працу ў нашай краіне.

*"Я вам скажу, што адсеў вялікі. Арганізацыі накшталт "сталы і крэслы" не прайшлі. А іх сотні",* — распавёў Аляксандр Кручанаў.

Паводле слоў спадара Кручанава, усім, каму адмоўлена ў атэстацыі, адмоўлена абгрунтавана.

## Спроба нумар пяць

Хлебазавод №1 у гістарычным цэнтры сталіцы на вуліцы Ракаўскай ўлады спрабуюць прадаць з канца 2012 года. Але нават пятая спроба не стала паспяховай.

Першы раз на аўкцыён завод выставілі па пачатковай цане ў 125,6 мільярда рублёў. На той момант гэта было 14,7 мільёна долараў ЗША. Потым таргі перанеслі на красавік 2013 года, але завод ніхто не купіў. 10 верасня хлебазавод выставілі на аўкцыён у пяты раз. Каб прадаць будынак, выканкам знізіў цану — да 10,3 мільёна долараў. Але і па такім кошце жадаючых купіць хлебазавод не знайшлося. Аўкцыён адмянілі.

Справа ў тым, што пры досыць невысокай цане продажу завода ёсць некалькі важных умоў, якія павінен выканаць пакупнік. Купіць і знесці комплекс будынкаў завода (а для цэнтра Мінска гэта было б вельмі прывабна) па ўмовах аўкцыёну нельга. Хлебазавод павінен прапрацаваць яшчэ два гады, на ім трэба захаваць колькасць работнікаў, а галоўнае — пагасіць крэдыторскую запазычанасць прадпрыемства ў памеры 4,3 мільярда рублёў. Гэтыя дадатковыя ўмовы, як няцяжка здагадацца, і стрымліваюць пакупнікоў.

## Каб жыццё не падалося мёдам

Напярэдадні Дня горада ўлады Мінска прынялі рашэнне аб павышэнні тарыфаў ЖКГ.

Павышэнне кошту жыллёва-камунальных паслуг для сталічных жыхароў немалое — на 9,8 працэнта.

Згодна з новымі расцэнкамі, тарыфы на паслугі па тэхнічным абслугоўванні жылых дамоў складуць 670,6 рубля ў месяц за 1 кв. метр агульнай плошчы жылога памяшкання. Тарыф на водазабеспячэнне павялічаны да 1117,7 за 1 куб м, на каналізацыю — да 726,5 за 1 куб. метр. Карыстанне ліфтамі цяпер будзе каштаваць 2626,7 рубля з аднаго жыхара ў месяц.

АКЦЫЯ

# Мы любім украінскі боршч!

На сядзібе Партыі БНФ прайшла дабрачынная акцыя "Мы любім украінскі боршч". Сабраныя сродкі перададуць украінскім параненым салдатам.

Боршч па класічным рэцэпце — з пампушкамі і часнаком — гатавала рэжысёр Вольга Нікалайчык.

*"Мэта гэтай акцыі — найперш засведчыць, што мы, беларусы, у адрозненне ад Расіі, любім украінскі боршч",* — гаворыць Вольга.

Нагадаем, што ў Расіі ў шэльмаванні Украіны дайшлі да таго, што пачалі пазбаўляцца ад слова "боршч", бо яно асацыюецца з украінскай шчодрасцю і гасціннасцю. Так, у многіх рэстаранах гэтая страва ўжо называецца "суп из свекольного корня по-русски".







МЕДСПРАВКА

## *Прививки спасают от эпидемии гриппа*

***Массовая вакцинация против гриппа в Минске начнется в октябре.***

*"В Минске продолжается подготовка к кампании вакцинации против гриппа,* — **сообщила государственный санитарный врач столицы Наталья Жукова.** — *Руководители более 1,8 тыс. организаций Минска подтвердили готовность финансирования вакцинации против этого заболевания своих сотрудников. Таким образом, прививки сделают около 152 тыс. работающих жителей столицы. Особое внимание будет уделено работникам сфер торговли и строительства".*

По словам **Натальи Жуковой,** в текущем году привить от гриппа за счет бюджетных источников финансирования планируется более 32% жителей Минска. Также, по словам специалистов, благодаря полномасштабной кампании по вакцинации в последние два года в Минске не формируется эпидемический подъем заболеваемости гриппом. Кроме того, прививки дают положительный экономический эффект. Например, с ноября 2013-го по март 2014 года было предупреждено около 42 тыс. случаев заболевания гриппом и до 13 тыс. случаев острых респираторных инфекций. По подсчетам, на каждый вложенный в вакцинацию доллар доход от предупреждения заболеваний и потерь временной трудоспособности составляет около 10 долларов.

КАЗУС

## *... і загучаў гімн БССР*

*Кур'ёзная сітуацыя здарылася ў Санкт-Пецярбургу перад пачаткам матча чэмпіянату Кантынентальнай хакейнай лігі.*

Хакеісты СКА і мінскага "Дынама" выйшлі на традыцыйнае праслухоўванне гімнаў. І ў гэты момант работнікі арэны ўключылі гімн БССР замест гімна суверэннай Беларусі. Беларускія хакеісты і заўзятары былі здзіўлены, пачуўшы словы пра Леніна і партыю.

Як паведамляе "Прессбол", ХК СКА ужо прынёс публічныя прабачэнні мінскаму "Дынама" за гэты інцыдэнт. У клубе адзначылі, што такое "непаразуменне" з выкананнем "неактуальнай версіі гімна" здарылася ў іх упершыню.

КАКИЕ РЕФОРМЫ НУЖНЫ БЕЛАРУСИ?

# Бизнес слышат, но не понимают

Нынешней осенью представители белорусского бизнес-сообщества должны будут сформулировать свой заказ на реформы в рамках программы "Реформ". Каких же преобразований ожидают отечественные предприниматели?

Как отмечает председатель президиума Республиканской конфедерации предпринимательства (РКП), председатель ОО "Минский столичный союз предпринимателей и работодателей" Владимир Карягин, белорусское бизнес-сообщество системно высказывает властям свои пожелания, ежегодно представляя Национальную платформу бизнеса Беларуси. В 2014 году было сформулировано более 100 конкретных предложений.



*"Безусловно, наиболее важным блоком преобразований является дальнейшее сокращение административных процедур и стабилизация белорусского законодательства",* — считает В.Карягин. По его словам, "законодательные шарахания" (то в отношении импортеров, то в отношении инвесторов, то в вопросе налогового режима) создают нетерпимую обстановку вокруг бизнеса.

*"Нас сторонятся потенциальные партнеры, инвесторы, а сами предприниматели не могут спланировать свою работу не только в отдаленной перспективе (на 3—5 лет), но иногда и на ближайший квартал. Поэтому необходимо стабилизировать белорусское законодательство, перейти к более ответственной политике, особенно в сфере налогового регулирования",* — отмечает В.Карягин.

По его мнению, корень конкурентоспособности белорусских компаний находится именно в сфере налогов и налогового администрирования. *"Поэтому повышение налогов (а соответствующие проекты правительство рассматривает), безусловно, абсолютно неправильная мера, на которую бизнес среагирует ногами",* — уверен В.Карягин.

Налоговая нагрузка должна, наоборот, поэтапно снижаться — это поддержит развитие устойчивости и конкурентоспособности белорусских предприятий. В.Карягин обратил внимание на то, что сегодня в Беларуси более 40% субъектов бизнеса (прежде всего малого и среднего) не имеют никакой прибыли и работают себе в убыток.

Вторым важным направлением преобразований должно стать развитие рынка ценных бумаг и оживление рынка финансовых услуг в целом.

*"Нужно расширить доступ к финансам, возможно, и к международным финансам. Потому что сегодня одними из важнейших препятствий для развития бизнеса являются сложный доступ к финансам и неподъемные ставки финансирования",* — говорит В.Карягин.

Хотя Нацбанк и предпринимает усилия по снижению ставки рефинансирования, но в целом кредиты в коммерческих банках очень дороги. Большинство субъектов малого и среднего предпринимательства не имеют фактически никаких накоплений (залогов, депозитов), почти отсутствуют оборотные средства.2

*"Поэтому правительству необходимо более активно стимулировать создание венчурных и инвестиционных фондов",* — подчеркивает В.Карягин.

Он констатирует, что в Беларуси сегодня отсутствует такое звено, как инвестиционные и гарантийные фонды, и правительству нужно решительнее действовать в этом направлении. Создание таких фондов снизило бы риски банков при выдаче кредитов субъектам малого и среднего предпринимательства и серьезно помогло бы развитию бизнеса.

В.Карягин также отмечает, что сегодня необходимо во всех районах Беларуси создать диалоговые площадки бизнеса и власти. По его словам, на данный момент диалог сторон идет "по верхам", преимущественно в Минске и частично на областном уровне. А должен идти в каждом районе.

*"Мы предлагаем в каждом районе создать три типа постоянно действующих рабочих групп: советы по развитию производственного предпринимательства, по развитию торговли и по развитию услуг. В этих советах в разрезе районов рассматривались бы создание условий устойчивого развития региона и бизнеса, перспективные проекты, которые могли бы получить помощь как со стороны властей областного уровня, так и со стороны международных экономических организаций",* — говорит В.Карягин.

Отдельный вопрос, насколько власть готова идти навстречу бизнес-сообществу в его нуждах. Глава РКП признает, что "наверху" сегодня действительно слышат голос предпринимателей, готовы рассматривать их предложения, однако этого мало.

*"Слышать-то слышат, но всегда ли готовы понять, принять и начать действовать? Нет, не всегда. Не всегда предложения понимаются и воспринимаются в силу того, что многие чиновники не имеют экономического образования, опыта предпринимательской деятельности, не мыслят конструктивно и масштабно, из-за чего предложения либо не воспринимаются, либо принимаются половинчатые, противоречивые решения. И это проблема, потому что мы теряем самый главный фактор экономики — время",* — считает В.Карягин.

**Андрей ШИНГАРЕВ.**

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

# Што больш: 530 альбо 610?

Беларусы не робяцца багацейшымі, хаця Белстат рэгулярна рапартуе пра рост заробкаў. У чым жа фокус?

Тры гады таму, у снежні 2010 года, беларусам упершыню ўдалося дасягнуць "500-доларавай мары" — тады сярэдняя зарплата склала 530 долараў. Сёння зарплата па лічбах сапраўды вышэй: паводле дадзеных Белстата, за чэрвень 2014-га беларусы зарабілі ў сярэднім 610 долараў. Аднак не пабагацелі, бо, як высвятляецца, кошты на тавары і паслугі раслі значна хутчэй за зарплату. У выніку на сваю рэкордную (па айчынных мерках) зарплату мы можам дазволіць сабе пакупак менш, чым тры гады таму.

Нягледзячы на тое, што долар прынята лічыць цвёрдай валютай, у Беларусі за тры гады стадоларавая паперка значна страціла ў цане. Так, эксперты "Intex-Press", абапіраючыся на ўсё тыя ж дадзеныя Белстата, падлічылі, што стадоларавая купюра сёння прыкладна на 70 пакетаў малака і 100 боханаў хлеба менш, чым у 2010 годзе.

Акрамя таго, сёння мы купім на 10 кіло мяснога фаршу і на 18 кілаграмаў свініны менш, чым у снежні 2010 года. Сала на 100 долараў мы сёння можам купіць удвая менш, чым тры гады таму. Але, мабыць, больш за ўсё сярод прадуктаў у доларах падаражэла бульба: сёння за сотню "баксаў" "другога хлеба" дадуць амаль на сто кіло менш.

Калі ў 2010 годзе за сто долараў быў даступны пыласос, а здачы хапала яшчэ і на прас, то сёння пасля куплі пыласоса ўжо нічога не застанецца. Лідарам жа падаражэння ў валюце сталі лекі: сёння за амерыканскую сотню мы купім у 2,5 раза менш антыбіётыкаў і абязбольваючых і амаль у тры разы менш вітамінаў!

У той жа час паліва на 100 долараў і ў 2010-м, і ў 2014 годзе можна набыць аднолькавую колькасць — 111 літраў. З радаснага ёсць і такая навіна: у цяперашняй зарплаце стала больш яек (на 45 дзясяткаў) і цукру (на 140 кілаграмаў).



## На што хапала 100 долараў?

| Прадукт | 2010 г. | 2014 г. |
|---|---|---|
| Свініна (кг) | 15,9 | 9,8 |
| Хлеб (кг) | 171 | 101 |
| Малако (л) | 195 | 122 |
| Тварог (кг) | 35 | 22 |
| Бульба (кг) | 208 | 114 |
| Цукеркі (карамель, кг) | 41 | 26,7 |
| Марозіва (кг) | 23 | 13 |
| Абед у сталоўцы (раз) | 72 | 44 |
| Мужчынская кашуля (шт.) | 7 | 4 |
| Вітаміны (упакоўка па 10 шт.) | 490 | 200 |
| Залаты выраб (1 г, шт.) | 2 | 1,5 |
| Білет на цягнік да Масквы (раз) | 11 | 5 |



## На што хапала сярэдняй зарплаты?

| Прадукт | Снежань 2010 г. | Чэрвень 2014 г. | Колькі тавару згубілі, % |
|---|---|---|---|
| Свініна (кг) | 78 | 60 | -23 |
| Хлеб (кг) | 772 | 6623 | -24 |
| Малако (л) | 944 | 753 | -25 |
| Тварог (кг) | 170 | 137 | -24 |
| Бульба (кг) | 907 | 705 | -29 |
| Абед у сталоўцы (раз) | 357 | 274 | -30 |
| Згушчанка (бляшанак) | 504 | 406 | -24 |
| Цукеркі (карамель, кг) | 197 | 164 | -20 |
| Марозіва (кг) | 106 | 80 | -32 |
| Мужчынская кашуля (шт.) | 35 | 25 | -40 |
| Мыла туалетнае (шт.) | 756 | 698 | -8 |
| Залаты выраб (1 г, шт.) | 10 | 9 | -10 |
| Вітаміны (упакоўка па 10 шт.) | 2336 | 1080 | -116 |
| Білет на цягнік (раз) | 52 | 35 | -48 |

ПРАБЛЕМА!

# Як "эканомяць" цеплавую энергію ў Віцебску...

Уладамі пастаўлена канкрэтная задача — за пяць гадоў знізіць энергаёмістасць валавога ўнутранага прадукту на адну трэць. Як яна вырашаецца?

У жылых памяшканнях адказнымі за эканомію энергарэсурсаў з'яўляюцца ўладальнікі кватэр, а ў месцах агульнага карыстання і службовых — супрацоўнікі жыллёва-камунальных службаў.

Што тычыцца насельніцтва, то эканомія электрычнай і цеплавой энергіі, газу і вады сапраўды стала нормай жыцця. Інакш немагчыма ўкласціся ў даведзеныя ліміты спажывання гэтых рэсурсаў. Напрыклад, толькі эканомія дазволіла жыхарам перайсці ад нормы спажывання вады 9 кубічных метраў у месяц да нормы 4 кубаметры. А вось прадпрыемствы жыллёва-камунальнай гаспадаркі абавязак забяспечваць эканомію энергіі ва ўнутрыдамавых устаноўках, у сістэме ацяплення і падагрэву вады і пры яе транспарціроўцы да месца спажывання не выконваюць.

Найбольшы аб'ём у энергарэсурсах жылога дома займае цеплавая энергія, якая выкарыстоўваецца для ацяплення жылых памяшканняў і гарачага водазабеспячэння. З пункту гледжання эканоміі гэты від энергіі выклікае найбольшую цікавасць, бо яе выпрацоўка і транспарціроўка да месца спажывання суправаджаецца значнымі стратамі.

Галоўнымі паказчыкамі эфектыўнасці выкарыстання цеплавой энергіі для ацяплення з'яўляецца велічыня яе расходу на адзін квадратны метр паверхні, што ацяпляецца, а для гарачага водазабеспячэння — расход цяпла на падагрэў аднаго кубічнага метра вады да ўстаноўленнай тэмпературы (50?С). Яшчэ са школьнага курса фізікі вядома, што колькасць цяпла ў кілакалорыях (ккал), неабходная для падагрэву вады да патрэбнай тэмпературы, раўняецца ўдзельнай цеплаёмістасці вады, памножанай на масу вады ў кілаграмах і на рознасць тэмператур паміж гарачай вадой, што выходзіць з цеплаабменніка, і халоднай, што паступае ў яго.

Зыходзячы з гэтага для падагрэву аднаго кубічнага метра вады (1000 кг) ад сярэднегадавой яе тэмпературы прыкладна 10°С да 50°С патрэбна 40.000 ккал, альбо 0,04 Гкал. Гэта без уліку страт цяпла. На жаль, працэс падагрэву вады і яе транспарціроўкі да спажыўца суправаджаецца стратамі цеплавой энергіі, велічыня якіх залежыць ад тэмпературы цепланосьбіта, канструктыўных асаблівасцяў цеплаабсталявання і цеплаправодаў, цеплаізаляцыйных матэрыялаў, што выкарыстоўваюцца, тэмпературы навакольнага асяроддзя, хуткасці ветру і гэтак далей. Трэба размяжоўваць тэхнічна непазбежныя страты, ці разліковыя, і страты, выкліканыя няспраўнасцю абсталявання, невыкананнем патрабавання тэхналогіі, уцечкамі цепланосьбіта і іншымі прычынамі.

Пры цеплазабеспячэнні жылых дамоў вялікае значэнне мае пытанне, хто адказвае за ўзнікненне страт цяпла і хто іх аплачвае. Адказ на гэтае пытанне паспрабуем знайсці ў "Правілах карыстання цеплавой энергіяй", зацверджаных пастановай Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 19 студзеня 2006 г. №9 (далей Правілы). Паводле іх, разлікі абанентаў за цеплавую энергію з цеплазабяспечваючай арганізацыяй ажыццяўляюцца на аснове паказанняў прыбораў уліку, устаноўленых на мяжы раздзелу балансавай прыналежнасці цеплавых сетак цеплазабяспечваючай арганізацыі і абанента. Гэта азначае, што цеплалічыльнік, які ўстаноўлены ў канцы цеплавых сетак цеплазабяспечваючай арганізацыі, не ўлічвае страты цеплавой энергіі ў цеплатрасе. Таму ўсе затраты па транспарціроўцы і тэхналагічна непазбежныя (нарміраваныя) затраты цеплавой энергіі ў гэтых цепласетках уключаюцца ў тарыфы на цяпло. А вось страты цеплавой энергіі, выкліканыя дрэннай эксплуатацыяй цеплавых сетак, адносяцца на цеплазабяспечваючую арганізацыю і аплачваюцца за яе кошт. Вельмі правільнае рашэнне: дрэнна працуеш — аплачвай павышаныя страты са сваёй кішэні.

Як правіла, цеплазабяспечваючыя арганізацыі ўваходзяць у склад канцэрна "Белэнерга", дзе пытанню зніжэння страт цеплавой энергіі надаецца асаблівае значэнне. Усім прадпрыемствам даводзяцца заданні па іх зніжэнні, штогод замяняюцца многія сотні кіламетраў труб цеплатрас з цеплаізаляцыяй з мінеральнай ваты на трубаправоды з пенапаліўрэтанавай ізаляцыяй, што дазваляе знізіць страты цеплавой энергіі ў 5—7 разоў.

У главе 5 Правілаў, якая называецца "Асаблівасці рэгулявання дагаворных адносін на транспарціроўку цеплавой энергіі і парадак разлікаў за цеплавую энергію, што пастаўляецца на ацяпленне і падагрэў вады ў жыллёвым фондзе", умовы разлікаў насельніцтва з жыллёва-камунальнай арганізацыяй за спажытую цеплавую энергію ў параўнанні з главой 4 ажыццяўляюцца з дакладнасцю да наадварот. Тут нічога не гаворыцца, хто адказвае за страты цеплавой энергіі ва ўнутрыдамавых цеплаўстаноўках. Паколькі прыбор уліку цеплавой энергіі, спажываемай жыльцамі дамоў, устаноўлены на ўводзе цеплаправода ў жылы дом, на пачатку схемы цеплазабеспячэння, то ўся цеплавая энергія, якая прайшла праз лічыльнік, незалежна ад таго, дайшла яна да спажыўца ці скінута ў каналізацыю альбо згублена ў цеплаcетках, лічыцца карысна адпушчанай насельніцтву. Выглядае на тое, што страты цеплавой энергіі ва ўнутрыдамавых цеплаўстаноўках адсутнічаюць, хаця на самай справе яны ёсць і ў даволі вялікіх памерах і аплачваюцца жыльцамі. Тут дзейнічае шкодны прынцып: страты наносяць адны, а разлічваюцца за іх сваімі кроўнымі другія. У гэтых умовах персаналу жыллёва-камунальнай гаспадаркі, які абслугоўвае ўнутрыдамавыя цеплавыя ўстаноўкі, не трэба нічога рабіць па зніжэнні страт цяпла, не трэба спяшацца з ліквідацыяй уцечак цепланосьбіта, калі яны ўзнікнуць ці дакладна выконваць патрабаванні тэхналогіі па цеплазабеспячэнні жылых дамоў. Больш за тое, узнікае меркаванне, што прадпрыемствы жыллёва-камунальнай гаспадаркі зацікаўлены ў росце страт цеплавой энергіі, бо яны дапамагаюць павялічыць водпуск яе насельніцтву.

Калі пры разліках абанента з цеплазабяспечваючай арганізацыяй прыбор уліку цяпла мабілізуе энергетыкаў на эканомію, то ва ўнутрыдамавых цеплаўстаноўках ён робіцца інструментам марнатраўства.

У главе 5 Правілаў устаноўлены парадак падліку колькасці спажытай жыльцамі цеплавой энергіі пры адсутнасці ў доме прыбораў групавога ўліку цеплавой энергіі на ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне. Для гэтага распрацоўваюцца і зацвярджаюцца ў гарвыканкаме нормы расходу цяпла на ацяпленне аднаго квадратнага метра жылой плошчы і на падагрэў аднаго кубічнага метра вады. Лічу, што такі метад разліку цяпла, асабліва на падагрэў вады, надуманы і вельмі далёкі ад навуковага абгрунтавання. Колькасць цяпла на падагрэў вады, як адзначана вышэй, устаноўлена законам фізікі і залежыць ад тэмпературы падагрэтай гарачай вады і падаграваемай халоднай. Дык навошта нарміраваць тую велічыню, якая ўжо занарміравана прыродай? Дастаткова і больш эфектыўна занарміраваць толькі страты цеплавой энергіі, якія ўзнікаюць пры падагрэве і транспарціроўцы гарачай вады для спажыўца. Але прынятая Правіламі методыка падліку колькасці затрачанай цеплавой энергіі на падагрэў вады з дапамогай нормаў з пункту гледжання эканоміі цяпла больш прагрэсіўная ў параўнанні з прыборным метадам, таму што велічыні нормаў кантралююцца выканкамамі пры іх зацвярджэнні, у той час як прыборы ўліку расходу цеплавой энергіі могуць паказваць нават нерэальныя велічыні за кошт наўмыснага росту страт і нікім не кантралююцца. Як паказвае практыка, зацверджаныя выканкамамі нормы бліжэй да рэальных велічынь і заўсёды ніжэй за фактычныя расходы цеплавой энергіі на падагрэў аднаго кубічнага метра вады, у асобныя месяцы нават у разы, у параўнанні з дамамі, у якіх устаноўлены цеплалічыльнікі. Асноўнай прычынай такога становішча з'яўляецца тое, што прыборы групавога ўліку цеплавой энергіі ўстаноўлены на ўводзе цеплаправода ў дом і садзейнічаюць росту страт цеплавой энергіі ва ўнутрыдамавых устаноўках, дазваляюць скідваць гарачую ваду ў каналізацыю, каб павялічыць паказанні лічыльніка. Усе гэтыя дзеянні не супярэчаць правілам карыстання цеплавой энергіяй, бо яны на гэта разлічаны пры распрацоўцы.

Разгледзім на канкрэтных цеплаўстаноўках жылога дома (Віцебск, праспект Будаўнікоў, 12), што зроблена па эканоміі цеплавой энергіі за два гады, ці стала эканомія ладам жыцця, стылем гаспадарання супрацоўнікаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, якія абслугоўвалі цеплаўстаноўкі гэтага дома.

Сярэднямесячны расход цеплавой энергіі на падагрэў аднаго кубічнага метра вады ў 2011 годзе склаў 0,06396 Гкал, а ў 2013 годзе — 0,0821 Гкал. Рост 28,36%. У выніку нерацыянальны расход цеплавой энергіі складае звыш 125 Гкал. Згодна з пастановамі Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 4 жніўня 2011 года №138 і ад 21 снежня 2012 года №1184, поўны кошт адной гігакалорыі цеплавой энергіі складае 240 тысяч рублёў. Тарыф на цеплавую энергію для насельніцтва на 1 лютага — 75.719,6 рубля за гігакалорыю. Поўны кошт нерацыянальна выкарыстанай на падагрэў вады цеплавой энергіі складае 30 мільёнаў рублёў, з якіх насельніцтвам аплачана 9 мільёнаў 465 тысяч рублёў, а дзяржава ў гэтым выпадку панесла страты ў памеры 20 мільёнаў 535 тысяч рублёў.

Узнікае пытанне: чаму замест таго, каб зніжацца, страты цеплавой энергіі ва ўнутрыдамавых устаноўках растуць шпаркімі тэмпамі? Растлумачыць гэта можна толькі пагаршэннем тэхнічнага стану ўнутрыдамавых цеплавых установак ці наўмысным скідваннем гарачай вады ў каналізацыю. Вось як аб гэтым пісаў у "Народнай Волі" былы супрацоўнік жыллёва-камунальнай гаспадаркі А.Е.Касачоў: *"Доходит до абсурда. Для того чтобы выполнить даже какой-нибудь пустяковый ремонт или замену, вместо того чтобы слить от силы пару кубов горячей воды из бойлера путем его отсечения от всей системы задвижками, начинают сливать в канализацию горячую воду в объемах, доходящих до нескольких сотен кубометров из бойлера и изо всех домов сразу, запитанных от него. Такие сливы продолжаются несколько часов, а то и сутки. Объясняется это тем, что задвижки из-за износа "не держат". Вопиющая бесхозяйственность, оплачиваемая потом жильцами, так как вся слитая вода уже зафиксирована счетчиками тепла. На вопрос, почему творятся такие безобразия, мне отвечали, что нет денег на новые задвижки. Неужели стоимость всей слитой горячей воды на одном ЦТП не превышает стоимости всех неисправных задвижек, вместе взятых? И такое я наблюдал чуть ли не каждый день 14 лет работы".* Хочацца да гэтага дадаць: а куды дзяюцца тыя сродкі, якія жыльцы дома пералічваюць кожны месяц на капітальны рамонт, хіба іх не хапае на замену няспраўных гідраўлічных засавак?

Ёсць падставы меркаваць, што такія зліванні гарачай вады ў каналізацыю ажыццяўляюцца не толькі з-за сапсаваных гідразасавак на цеплаправодах, але і для рэгулявання велічыні рэалізацыі цеплавой энергіі насельніцтву.

Вось прыклад. У жніўні мінулага года на падагрэў аднаго кубічнага метра вады затрачана аж 0,112 Гкал цяпла, і гэта ў тую пару года, калі тэмпература халоднай вады перавышае 15?С. Затраціць 0,112 Гкал цяпла на падагрэў аднаго кубаметра вады ад 15?С да 55?С — гэта тое самае, што заліць у пяцілітровую ёмкасць дзесяць літраў вады. Пры такой колькасці цяпла вада нагрэецца да 127°С, а гэта пры тэмпературы грэючай вады ніжэй 70°С не атрымаецца, ды і пры атмасферным ціску ваду можна давесці толькі да кіпення. Адзначым, што расход цяпла ў 0,112 Гкал на адзін кубаметр вады з'яўляецца рэкордным за ўсю гісторыю гарачага водазабеспячэння дома. Можна меркаваць, што такім чынам рэгулявалася колькасць цяпла, адпушчанага насельніцтву. Для гэтага злівалі гарачую ваду ў каналізацыю, і, калі лічыльнік паказаў патрэбную колькасць цеплавой энергіі, яе аднеслі на фактычны расход гарачай вады па доме па дадзеных водаканала. А зрабілі гэта ў жніўні таму, што ў ліпені на два тыдні адключалі дом ад цеплатрасы для рамонту вонкавых цеплаcетак. Відаць, не выконваўся план рэалізацыі цяпла.

Другі выпадак нерэальнага расходу цеплавой энергіі меў месца ў снежні 2013 года. Тады на падагрэў аднаго кубічнага метра вады было затрачана 0,1085 Гкал. Нерэальнасць такога расходу аналагічна жнівеньскаму. Магчыма, у снежні прымалі такім чынам меры па выкананні гадавога плана отпуску цяпла. Падлічым, колькі трэба было зліць гарачай вады ў каналізацыю, калі сапраўды такім чынам рэгулюецца рэалізацыя цяпла.

Згодна з рашэннем Віцебскага гарвыканкама ад 2 кастрычніка 2013 года №1354, на падагрэў аднаго кубічнага метра вады для дамоў з цыркуляцыяй гарачага водазабеспячэння, у якіх адсутнічаюць прыборы групавога ўліку цяпла, дастаткова 0,0674 Гкал цеплавой энергіі. Такой колькасці цяпла павінна хапіць і для дамоў, у якіх устаноўлены цеплалічыльнікі, бо цеплаўстаноўкі ў іх нічым не адрозніваюцца, акрамя лічыльніка.

Таму можна ўзяць лічбу 0,0674 Гкал не для фінансавых разлікаў за спажытае цяпло, а для аналізу цеплакарыстання. Такім чынам, звыш нормы на падагрэў аднаго кубічнага метра вады ў снежні затрачана 0,0411 Гкал, у выніку чаго на ўсю спажытую домам гарачую ваду за месяц нерацыянальна скарыстана амаль 30 Гкал цяпла, якое скінута ў каналізацыю, а з ім і 660 кубаметраў вады.

Калі падвесці вынікі цеплакарыстання ў жылым доме, то трэба адзначыць, што за два гады расход цеплавой энергіі на падагрэў вады павялічыўся больш як на 28%, а ў асобныя месяцы 2013 года (жнівень, снежань) назіраліся нерэальныя, нічым не абгрунтаваныя затраты цяпла. Склалася сітуацыя, якая ўжо стала нормай: расход цеплавой энергіі на падагрэў вады ў жылых дамах, у якіх устаноўлены лічыльнікі групавога ўліку цяпла, значна вышэй за такі расход цеплавой энергіі ў дамах, дзе гэтых лічыльнікаў няма, хаця самі цеплаўстаноўкі ў гэтых дамах аднолькавыя па ўсіх паказчыках. У выніку кошт падагрэву аднаго кубічнага метра вады ў дамах розны, але тарыф на гэты від энергіі для ўсіх аднолькавы. Напрыклад, у жніўні мінулага года кошт аднаго кубаметра вады для жыльцоў дамоў без прыбораў групавога ўліку цяпла складаў 4425 рублёў, а з прыборам — 8480 рублёў, у верасні — адпаведна 5103 рублі і 6928 рублёў, у снежні — 5103 рублі і 7950 рублёў. Гэта паўтараецца з года ў год, з месяца ў месяц. Хіба ж такое справядліва? Уся прычына ў тым, што камунальнікі пры наяўнасці прыбора групавога ўліку цяпла на падагрэў вады могуць уплываць на гэты расход і карыстаюцца такімі магчымасцямі. Але рэгуляванне расходу цеплавой энергіі злівам гарачай вады ў каналізацыю нясе матэрыяльныя страты дзяржаве і насельніцтву. Так, адна скінутая ў каналізацыю гігакалорыя цяпла абыходзіцца дзяржаве ў 162,28 тысячы рублёў, а насельніцтву — у 75,7196 тысячы рублёў.

У той час калі ў сродках масавай інфармацыі даволі часта ідзе гаворка аб пераходзе на 100-працэнтную аплату камунальных паслуг, адначасова павялічваць тарыфы на гэтыя паслугі і завышаць іх аб'ёмы недапушчальна.

Да таго, як гэты матэрыял быў накіраваны ў газету, факты нерацыянальнага расходу цеплавой энергіі ў жыллі і ўмовы іх узнікнення ў красавіку і маі 2013 года разглядаліся ў міністэрствах эканомікі і жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь. Адначасова была ўнесена прапанова да вырашэння гэтага пытання ўвесці абмежаванні на рост расходу цеплавой энергіі на падагрэў аднаго кубічнага метра вады, як гэта зроблена для насельніцтва ў спажыванні электраэнергіі, газу і вады. Чыноўнікі Міністэрства эканомікі і Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў адзін голас заявілі, што абмяжоўваць расход цяпла на падагрэў аднаго кубічнага метра вады не трэба. А другога адказу не варта было і чакаць. Не для таго ў Правілы былі ўключаны для жыллёва-камунальных службаў шырокія магчымасці рэгуляваць расходы цеплавой энергіі ў жылых дамах у тых памерах, якія ім патрэбны, каб іх абмяжоўваць.

Выклікае здзіўленне, чаму кантрольныя органы краіны не хочуць заўважаць марнатраўства цеплавой энергіі ў сістэме цеплазабеспячэння жылля. Хіба ж кіраўнік дзяржавы не меў на ўвазе жыллёва-камунальную гаспадарку, калі заклікаў эканоміць паліўна-энергетычныя рэсурсы?

Калі падысці да вырашэння пытання па эканоміі энергарэсурсаў у жыллёвым сектары з пункту гледжання не вузкаведамасных, а дзяржаўных інтарэсаў, то пры ліквідаванні марнатраўства ў сістэме цеплазабеспячэння жылля ў краіне можна знізіць спажыванне паліўна-энергетычных рэсурсаў на многія тысячы тон умоўнага паліва.

**Раман КЛАЎСУЦЬ, інжынер.**

АСОБА

## *Госць з біяграфіяй*

*Двойчы міністр замежных спраў Італіі* ***Франка Фраціні*** *прыязджае ў Мінск. Былы дыпламат, адзін з уплывовых еўрапейскіх палітыкаў выступіць з лекцыяй перад студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*



Акрамя таго, паведамляецца, што для спадара Фраціні запланаваны сустрэчы "з кіраўнікамі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый Беларусі".

І сам факт візіту, і тыя "падрабязнасці", якія пра яго паведамляюцца, толькі павышаюць градус інтрыгі. Напэўна, лішнім будзе казаць, што аўтарытэтныя еўрапейскія палітыкі ўжо шмат гадоў без асаблівай патрэбы і носу да нас не кажуць, а наадварот, старанна абыходзяць Мінск бокам.

Палітычны аглядальнік **Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ** выказаў сваё меркаванне з нагоды візіту эксміністра замежных спраў Італіі: *"Для "адстаўнога" палітыка нічога надзвычайнага ў гэтым няма. А для нас ва ўмовах міжнароднай самаізаляцыі прылёт любой асобы з Еўропы можа ўяўляцца як падзея. Насамрэч гэта не так. Праўда, можна меркаваць, што часам такія "адстаўныя" палітыкі могуць выконваць і нейкія важныя патаемныя даручэнні. Але нам пра іх невядома. Таму акрамя лекцыі цікава было б прасачыць, з якімі менавіта чыноўнікамі будзе сустракацца італьянскі госць".*

Нагадаем Франка Фраціні быў міністрам замежных спраў Італіі з 2002-га па 2004 год, а потым — з 2008-га па 2011 год. Цяпер ён узначальвае Італьянскае таварыства міжнародных арганізацый і Высокі суд спартыўнага правасуддзя пры Нацыянальным алімпійскім камітэце Італіі.

КАРУПЦЫЯ

## *Нібы пан*

Пракуратурай Савецкага раёна сталіцы распачата крымінальная справа ў дачыненні да былога намесніка кіраўніка адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска, які падазраецца ў злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі.

Крымінальная справа была ўзбуджана па матэрыялах АБЭЗ УУС адміністрацыі Савецкага раёна Мінска. Паведамляецца, што ў перыяд з лютага 2013-га па красавік 2014 года, з'яўляючыся службовай асобай і займаючы адказную пасаду, чыноўнік выкарыстоўваў службовы аўтамабіль і вадзіцеля ўнітарнага прадпрыемства "Рэмаўтадар Цэнтральнага раёна г.Мінска" (куратарам якога з'яўляўся) выключна ў асабістых мэтах. *"Гэтым ён прычыніў шкоду дзяржаўнаму прадпрыемству на суму больш за 33 мільёны рублёў",* — распавяла прэс-сакратар УБЭП ГУУС Мінгарвыканкама Вера Хадасевіч.

ЧИТАТЕЛЬ СПРАШИВАЕТ...

# *Кто должен рассматривать земельные споры?*

***Статья 92 Кодекса о земле достаточно четко разграничивает компетенцию органов, рассматривающих земельные споры. В ней прописано, какие споры рассматриваются в административном порядке и какие — в судебном порядке. Из комментариев юриста Олега Волчека вытекает, что земельные споры (например, о границах земельных участков) между гражданами-собственниками могут разрешаться в административном порядке. Между тем постоянная комиссия Палаты представителей Национального собрания по аграрной политике считает, что защита гражданских прав в административном порядке осуществляется лишь в случаях, предусмотренных законодательством. В то же время в части первой статьи 92 Кодекса закреплено право соответствующих исполнительных комитетов рассматривать некоторые виды земельных споров в административном порядке. Получается нестыковка в толковании данной статьи кодекса. Хотелось бы услышать на этот счет мнения других юристов, например, Михаила Пастухова, Гарри Погоняйло, профессиональные комментарии которых нередко печатает "Народная Воля".***

***С уважением —***

***Владимир БОБРОВИЧ, г.Минск.***

**Мы попросили ответить на письмо читателя доктора юридических наук, профессора Михаила Пастухова.**

— Из смысла статьи 92 Кодекса о земле следует, что земельные споры рассматриваются по общему правилу местными исполнительными органами. Что касается более сложных и значимых споров (например, споров, связанных с правом частной собственности на земельный участок, с наследованием земельных участков, споров между лицами, имеющими капитальные строения в общей собственности), то они разрешаются в судебном порядке.

Установленный порядок мне представляется оправданным, поскольку нельзя все земельные споры, в том числе о границах земельных участков, возложить на суды. При этом в какой-то мере нарушается принцип равенства граждан на защиту своих прав. Однако это компенсируется возможностью обжаловать решение, принятое по земельному спору, в вышестоящем исполкоме или в суде (ч.2 ст.94 Кодекса).

Правда, Вам в этом случае посоветуют жаловаться в административном порядке и "не тревожить" своими мелкими вопросами суды, которые и так работают с перегрузкой. Но Вы можете подать жалобу прямо в суд по месту нахождения земельного участка, и ее обязаны принять к рассмотрению.

На мой взгляд, для разрешения подобных споров (гражданин — администрация) лучше всего подходят специальные суды по административным спорам (административные суды). Они успешно действуют во многих странах Европы. Нам их тоже надо создавать.

ЗДАРЭННЕ

# Забіў і пасміхаўся

*З Гродна прыйшла чарговая шакіруючая навіна, звязаная са спайсамі.*

9 верасня 18-гадовы кіроўца аўтамабіля "Seat Ibiza" вылецеў з дарогі на прыпынак грамадскага транспарту і збіў дзвюх жанчын. Адна з іх загінула на месцы, другая шпіталізавана. Акрамя таго, хлопец збіў дзве асвятляльныя апоры, агароджу аўтастаянкі, урэзаўся ў другі аўтамабіль...

Кіроўца ехаў у машыне адзін і амаль не атрымаў ніякіх траўмаў. Тым не менш яго таксама адвезлі ў бальніцу — вывадзіць з "наркадурману".

— Яго стан не дазваляў яму адказаць на элементарныя пытанні: як клічуць, колькі гадоў і таму падобныя, — паведамілі "Народнай Волі" ў Гродзенскай ДАІ. — У будынку ДАІ ён сеў на падлогу, пасміхаўся, пляваўся, выдаваў незразумелыя гукі і не мог нічога ўцямна прамовіць. Ён нават не разумеў, што стварыў непапраўнае.





Але ў бальніцы розум да маладога чалавека пачаў вяртацца, і ён паспрабаваў уцячы. Згодна з неафіцыйнай інфармацыяй, ён галышом дабраўся да Нёмана, пераплыў раку і схаваўся ў лесапаркавым масіве. Знайсці голага чалавека аказалася лёгка.

Паводле звестак "Народнай Волі", правы вінаваты ў аварыі атрымаў толькі за два месяцы да трагедыі. Ён нідзе не працаваў і ўхіляўся ад прызыву ў войска.

Узбуджана крымінальная справа. Бліжэйшая "перспектыва" для гэтага аматара вострых адчуванняў — сем гадоў пазбаўлення волі.

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 ВЕРАСНЯ 2014 г.

ИСПОВЕДЬ

*15 лет назад в нашей стране стали происходить страшные вещи — начали бесследно исчезать известные люди. Что произошло? Как произошло? Почему такое могло случиться? Ответов на эти вопросы до сих пор нет. Формально этот рассказ не проливает свет на дела бесследно исчезнувших Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского, Дмитрия Завадского. Однако по сути это рассказ о том, как стали возможны эти и другие преступления и почему они не расследованы.*

# «Группа икс»

— Меня зовут Вячеслав Федоров, живу в Мозыре. По сути, я хочу дать свидетельские показания по фактам беззакония в службе безопасности нефтеперерабатывающего завода, в которой я работал.

Устроился я на завод в 2001 году в охрану. Проработал около двух месяцев в должности стрелка и получил предложение перейти в службу безопасности завода. (Официально она так не называлась, но цели и задачи ее полностью соответствуют именно такому названию.)

Начинал работать в должности инспектора КПП в группе автопатруля. Мы проводили различные проверки на НПЗ, пресекали хищения с завода нефтепродуктов и других материалов, задерживали лиц, пытающихся совершить хищения, и всякое подобное. Почти каждый день мы посещали тренировки по рукопашному бою: сначала они проходили в СТК "Старт", затем в своем собственном здании, которое было переоборудовано из котельной, расположенной на улице Нефтестроителей, в отличную базу для подготовки личного состава службы. Раз в неделю мы тренировались с оружием, которое получали в караульном помещении НПЗ. Все эти тренировки (по рукопашке и с оружием) проводил человек, который ранее проходил службу в 5-й бригаде специального назначения. Я тоже проходил срочную службу в этой бригаде, но он был в особом отряде, который состоит только из офицеров и прапорщиков и является элитой Вооруженных сил Республики Беларусь.

Помимо группы автопатруля в службе были и другие. Это: ЦТО — центр технической охраны, группа личной охраны, бюро пропусков и так далее. Но меня заинтриговала другая группа, которая подчинялась непосредственно "шефу" — одному из заместителей генерального директора, человеку, основавшему СБ на заводе и курировавшему ее. Мы только тренировались вместе с этими ребятами, а о том, чем они занимаются, могли лишь догадываться. Знали, правда, что они работают не столько на заводе, сколько в городе, хотя все остальные группы работали непосредственно на заводе и прилегающей к нему территории. (Для тех, кто не знает, скажу, что Мозырский НПЗ находится от города на расстоянии около 25 километров.) Какую именно работу они проводили в самом Мозыре, никто точного ответа дать не мог.

Назову ее "группа икс".

Примерно через полгода после того, как я начал работать в службе безопасности, мне поступило предложение перейти в эту самую "группу икс". Я согласился, так как это было своего рода повышением ведь в "икс" были те, кто пользовался особым доверием шефа.

Расскажу подробнее о целях и задачах этой группы, так как она наверняка не единственная и не уникальная и деятельность подобных структур так или иначе касается любого человека, проживающего в Беларуси. Считаю, что люди должны знать о существовании таких "икс", чтобы был выработан механизм контроля за их деятельностью и со стороны специальных служб, и со стороны общества.

База группы находилась в самом Мозыре на конспиративной квартире. В нее входили как люди, официально числившиеся в службе безопасности завода, так и те, кто формально не имел к предприятию никакого отношения, часто просто нигде не работал. Я удивился, когда увидел среди коллег девушку, которую знал еще с подросткового возраста. Она была из неблагополучной семьи, встречалась с парнем, которого я знал и который, когда она забеременела и родила сына, бросил ее. Ее отец пил, а когда напивался — бил ее. Почему я все это описываю, поясню чуть позже.



Основными целями и задачами был сбор информации — наружное наблюдение за людьми, прослушивание их разговоров и т.д., а также постоянный учебный процесс, за которым следил лично шеф. Из Москвы он привозил нам специальную литературу. Первой книгой в "икс" для меня стала книга Дейла Карнеги, затем — "Масоны" (я даже начал подумывать, что мы тоже какая-то масонская структура), книги по психологии, о том, как устанавливать контакт с людьми, и тому подобное. Затем все больше и больше стало появляться учебных книг с примерно такими названиями, как "Искусство снайпера". Содержание их было следующее: тактико-технические характеристики снайперских винтовок, настройки оптических прицелов, психофизиология снайпера, — серьезные учебные пособия. Я хорошо запомнил книгу китайского автора "Искусство войны", где были приведены рецепты многих ядов. Все эти книги мы должны были изучить и законспектировать свои основные мысли по ним. В общем, все, что я хотел взять от армии, дополучал здесь и вначале с интересом погрузился в учебу.

Постепенно я стал замечать, что деятельность группы стала склоняться в одну определенную сторону. Мы стреляли отдельно от всех и получали большое количество боеприпасов. Шеф, который лично занимался группой, в своих беседах с нами мог сказать: "Видел (встречался или общался, дословно не помню) чистильщика. 70 лет, а голову кому хочешь открутит!" Говорил с явным восхищением, тем самым формируя в нас уважение. В преступном мире чистильщик — это наемный убийца, в контрразведке это, если я не ошибаюсь, человек, обезвреживающий вражеских диверсантов. С которым из них общался наш шеф, мы точно не знали.

И тогда я стал задумываться: кем мы являемся — государственным подразделением или обыкновенным преступным формированием, которое работает под хорошим прикрытием? С одной стороны, я видел контакты руководителей нашей службы с КГБ. Шеф и руководитель Мозырского УКГБ часто встречались, во время командировок в Минск шеф часто встречался с людьми из Службы безопасности президента. Поэтому вопросов я не задавал, думал, что придет время и все прояснится. Но, с другой стороны, вопросов становилось все больше. Так, однажды я увидел учебное пособие по карманным кражам. Не думаю, что оно могло попасть туда случайно, уверен, что оно было предназначено для нашей учебы! "Неужели государственные методы работы уже ничем не отличаются от методов преступников, неужели стерлись все границы допустимых нравственных норм в борьбе правосудия и беззакония?! — думал я. — Ладно, в милиции, когда я попадал туда подростком, насмотрелся на беззаконие, но здесь, в службе безопасности завода, которая сотрудничает с КГБ и Службой безопасности президента!.."

Помню, как в 1990-х сотрудники милиции рассматривали меня в качестве источника наживы, вымогая с меня деньги и угрожая, что повесят на меня преступление, которое я не совершал. Слава Богу, у них ничего не вышло. Но в "икс" нас тоже рассматривали как инструмент для самой грязной работы — убийства, воровства и т.д. Во имя чего? Ради наживы или какой-то государственной идеи? Если для идеи, то что это за идея такая, которая осуществляется такими грязными методами?

Со временем я понял, по какому принципу подбирались те или иные люди для группы. Однажды шеф сказал, что нам нужно увеличить штат, в "икс" он хотел видеть еще несколько молодых женщин. Акцент делался на матерей-одиночек, то есть на "раненых" женщин, готовых ради благополучия своих детей идти на что угодно. (Тут я и вспомнил свою коллегу из группы, о которой уже упоминал.) Также я обратил внимание на то, откуда вышел сам, ведь по молодости у меня были проблемы с законом, с подросткового возраста я привык решать большинство вопросов с помощью насилия (это уже потом Библия меня исцелила).

Одним словом, в "икс" нужны были люди, которые, кроме насилия и жестокости, а также стесненных жизненных обстоятельств, мало что видели в жизни и которым хотелось выкарабкаться из того болота, в котором они оказались.

Начался поиск подходящих кандидаток для работы. Мы отслеживали молодых женщин, прослушивали телефоны, устанавливали их контакты, рылись в медицинских картах и так далее. Хорошо запомнил одну такую маму. Она растила 10-летнюю дочь и занималась проституцией. На нее вышел шеф. Надо сказать, что он в нашем городе фигура известная и женщина легко пошла с ним на контакт.

Шеф пригласил ее на пикник, но никакого пикника не было. Вместо этого женщину ждали четверо утомительных суток хождения по болотам со мной и тем самым бывшим сотрудником особого отряда. Мы должны были смотреть, как человек поведет себя в экстремальных условиях. Она не знала, сколько нам еще идти, когда все это кончится. Но прекрасно понимала, что для нее это испытание, и, цепляясь зубами за надежду, которая маячила где-то впереди после встречи с шефом, упорно шла.

Здесь нужно сказать, что подобные прогулки в теплое время года были постоянными. И если сначала мы просто ходили по карте и компасу от тайника к тайнику, где забирали новое задание, то затем мы начали делиться на убийц и мишень. Мишенью выступал шеф, мы — убийцами, были люди, которые являлись охраной шефа и должны были нас нейтрализовать. Теперь уже в тайниках мы обнаруживали оружие, правда, пока игрушечное.

Знаю, что планировались учения по сбору в других городах информации об объектах жизнеобеспечения и об их руководителях. Для этого группу планировалось разделить по парам и разбросать по разным городам на несколько дней. При каждом должна была находиться небольшая сумма денег, которой можно было воспользоваться только в случае крайней необходимости. Выживать в эти дни мы должны были без денег. Как? Это было неважно. Главное — выполнить поставленную задачу.

Работали мы и по коммерсантам, собирали информацию по некоторым коммерческим фирмам. Зачем службе безопасности одного завода такая широкая сфера деятельности, мне не понятно. Наверное, этот вопрос лучше задать нашим правоохранительным органам и контрразведчикам.

Как я потом узнал, я и девушка, занимавшаяся проституцией, неслучайно оказались вместе в лесу. Для нас готовилась определенная роль. Правда, сыграть ее нам не пришлось, так как я все-таки решил уйти. На тот момент я так и не разобрался, что это за подразделение. Но каким бы оно формально ни было — государственным или бандитским формированием, по сути оно являлось преступным, ведь мы могли установить наблюдение фактически за любым человеком.

Я себе все чаще стал задавать вопрос: кому или чему я в этой службе все-таки служу?

Однажды шеф сказал: "Если я захочу, чтобы человек не работал на заводе, он не будет работать. И никто не сможет мне в этом помешать, даже Бог".

Вот тогда я и понял, что с этим человеком больше работать не смогу. Ведь он поставил себя выше Бога. А я хоть и не жил по слову Божьему, но с детства верил, что Бог есть.

Как-то он проронил такую фразу: "Даже если я не буду работать на заводе, люди мне все равно будут нужны". Для меня это был ясный знак.

Нам он давал понять, что в свое время служил во внешней разведке. Все знают, что бывших разведчиков не бывает, но кому или чему он служит теперь? Я не знаю этого точно, но думаю, что на сегодняшний день — режиму действующего президента. Просто есть определенные договоренности, бизнес и ничего личного — никакой идеологии.

Через некоторое время я сказал ему, что хочу выйти из группы. Он и сам видел, что мне не доставляет удовольствия заниматься слежкой-прослушкой, зато нравится боевая подготовка, поэтому "забросил удочку":

— У меня к тебе предложение. У нас есть карабины, пистолеты...

— Я понимаю, к чему вы это говорите, но не вижу идеи, — ответил я.

— Пока не видишь, — сказал он.

На следующий день мы встретились в его кабинете, где он задал мне прямой вопрос о том, верю ли я в Бога. После того как я ответил, что верю, он предложил мне самому выбрать группу, в которой хочу работать. Я выбрал группу личной охраны, потому что это более официальная работа безо всяких скрытных заморочек. Сначала охранял главного инженера, а затем генерального директора МНПЗ. После полутора лет работы в этой группе я все-таки решил и с этой службой развязаться. Когда сказал об этом шефу, он вновь предложил мне хорошее место — в охране на городском объекте завода, недалеко от моего дома. Я согласился и проработал там около пяти лет, а потом окончательно уволился с МНПЗ. Одна из причин — ко мне зачастили ребята из службы безопасности. После них я стал обнаруживать подкопы. То есть они что-то планировали провести, и мне это не нравилось.

Отучился на обувщика, открыл свою мастерскую по ремонту обуви. Но с бывшими коллегами мне приходилось сталкиваться и тут. Во время работы в "группе икс" по просьбе шефа я оформил на себя автомобиль известного бизнесмена, а ему выписал доверенность. И вот когда этот человек решил машину продать, мне нужно было подписать документы о купле-продаже. Звонил и договаривался со мной человек из Службы безопасности президента. Разговорились с покупателем. Оказалось, он охранник из Службы безопасности президента. Вот такой клубок получается.

...Спустя годы после той моей работы я пришел к следующему выводу. В 1990-х годах в Беларуси прокатилась волна убийств криминальных авторитетов, и Мозырь она не обошла стороной. Думаю, что эти убийства совершало государство руками таких "групп икс", в одной из которых служил я. Возможно, они существуют по всей Беларуси, особенно там, где есть крупные предприятия. Например, наши люди переходили работать на НПЗ "Нафтан". Полагаю, для того, чтобы и там создать аналогичную службу.

После убийства криминальных авторитетов стали пропадать представители оппозиции. Думаю, что и это дело рук подобных "групп икс". И так как руководитель группы (как в моем случае) обязательно имеет контакты с КГБ и СБП Беларуси, думаю, они остались безнаказанными. Хотелось бы верить, что я не прав, но все, что я видел своими глазами, подталкивает меня именно к такому выводу.

**Вячеслав ФЕДОРОВ.**

## Об авторе

**Вячеслав Федоров в настоящее время активно занимается профилактикой наркомании, преступности и иных антисоциальных явлений среди подростков.**

**Свою личную историю он изложил в небольшой автобиографической книге "Возрождение", которую можно прочитать на его странице в интернете: http://vk.com/notes33348326.**

**По фактам, изложенным выше, Вячеслав обращался и в Администрацию президента, и в КГБ, однако реакции не дождался.**



ПОГЛЯД

## *Народ сам можа выбраць накірунак развіцця...*

Чым закончылася ўлада бальшавікоў — усім добра вядома: самі сябе загубілі.

Трэба рабіць высновы з урокаў гісторыі. Дыктатура можа прывесці толькі да праліцця крыві.

Беларускім уладам неабходна больш клапаціцца пра людзей, паважаць правы кожнага чалавека, якіх бы поглядаў ён ні прытрымліваўся. У нас нямала адукаваных і разважлівых людзей. Народ сам можа выбраць накірунак свайго развіцця, толькі дайце яму такую магчымасць.

**Аляксей БУЦЬКО.**

*Гродна.*

ИЗ ПИСЬМА

## *Не опустится ли «железный занавес»?*

Очень нежелательно, чтобы из-за агрессивной политики В.Путина, из-за противостояния России со всеми цивилизованными, демократическими государствами был опущен "железный занавес", как это было при советской власти. Боюсь, как бы нам в Беларуси не пришлось стоять в очереди за свиными косточками, как это было в советские времена...

**Леонид РОССИЯНСКИЙ, ветеран.**

*Минск.*

ГУМАР ГУМАРАМ...

## *Эх, і цэны!*



*Узялі цэны ў абарот*
*Нашу паўсядзёнку.*
*Я у краму сам хаджу,*
*Не пускаю жонку.*

*Сэрца слабае ў яе —*
*Нельга хваляваціца,*
*А ад цэн ніяк нідзе*
*Не уратаваціца.*

*Кожны дзень талкую з ёй —*
*Ўжо прыстасаваўся —*
*Каб да цэн імунітэт*
*Ў ёй замацаваўся.*

*І ужо у краму йдзе —*
*Прытомнасць не губляе.*
*Толькі іншы раз кагосьці*
*Кудысьці пасылае...*

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ, інвалід Вялікай Айчыннай вайны.**

*г.Слаўгарад.*

АБРАКАДАБРА

## *З глузду з'ехалі*

Пабачыў па ТБ рэпартаж аб урачыстым адкрыцці ў Кыргызстане Першых сусветных гульняў качэўнікаў. Спачатку не паверыў сваім вачам — на сцэне лунаў беларускі афіцыйны сцяг. Аказалася, сапраўды прадстаўнікі Беларусі ўдзельнічаюць у гульнях.

Кім нас толькі не рабілі за нашу гісторыю! Але каб яшчэ і качэўнікамі?! Гэтага я ўжо ніяк не чакаў! Нашы продкі, напэўна, у труне пераварочваюцца.

**Антон СТАРЫКАЎ.**

*Мінск.*

РЭХА

## *Па кім звоняць званы*

Вялікі дзякуй "Народнай Волі" за артыкул спадара Дашука "Последний репортаж из клетки для кроликов". Гэта крык душы Грамадзяніна, Патрыёта і Творцы.

Ён вельмі даступна нагадаў, па кім звоняць званы.

Нашым суайчыннікам не хапае праўдзівай і аб'ектыўнай інфармацыі. Яе зараз так неабходна даносіць да людзей.

З павагай і надзеяй на лепшае —

**Іраіда МІСКО.**

*г.Жодзіна.*

## *Нізкі паклон*

Я даўняя падпісчыца і чытачка вашай газеты. Вельмі ўдзячна за артыкул спадара Дашука. Я лічу, што гэты артыкул павінен чытацца, як "Ойча наш", у кватэры кожнага сапраўднага беларуса, у якога баліць сэрца за лёс нашай Бацькаўшчыны. Нізкі паклон спадару Дашуку і ўдзячнасць за тое, што ён данёс свой боль да людзей. Не ўсім патрыётам і шчырым беларусам дадзены Божы дар так даступна давесці яго да людзей, у якіх таксама баліць душа за знявечаную Бацькаўшчыну.

**Ірына БАЛЦЭВІЧ.**

*г.Жодзіна.*

РЕТРОСПЕКТИВА

# Правда о референдуме 17 марта 1991 года

29 августа в "Народной Воле" было напечатано письмо Л.И.Шофмана под заголовком "Не наломать бы больше дров, профессор...". Автор ратует за правду. Но за какую правду? Правду "совка". (Кстати, он себя таким словом и высек.) Этот "правдолюбец" упомянул и о "волеизъявлении народа" во время проведения референдума в 1991 году. Какой же вопрос был тогда вынесен на референдум? Прямо скажу — чисто провокационный: **"Считаете ли вы необходимым сохранение СССР как обновленной федерации равноправных суверенных республик, в которой будут в полной мере гарантированы права и свободы человека любой национальности?"**

Значит, если вы говорите "да", тогда вы за обновление СССР. А если "нет", то, выходит, вы против обновления федерации, то есть вы за старый СССР. Словом, как ни голосуй, ты все равно голосуешь за СССР, только в первом случае — за "обновленный", в другом — за прежний Союз. Вот такой пропагандистский вопрос был вынесен на референдум, проведенный 17 марта 1991 года.

Ведь не было вынесено на референдум следующее:

"Вы хотите жить в СССР или желаете, чтобы ваша республика стала независимым государством?"

К тому же, не все республики приняли участие в голосовании, хотя некоторые пропагандисты твердят, что в голосовании приняло участие большинство людей.

Вот что писала "Правда" 22 марта 1991 года.

Итоги референдума: приняли участие — 147 миллионов человек. Проголосовали против Союза — 35 миллионов человек, не пришли голосовать — 37 миллионов человек, всего — 72 миллиона человек.

Значит, за сохранение Союза — 112 миллионов человек, против — 72 миллиона человек. И еще в дополнение: от проведения референдума отказались Латвия, Литва, Эстония, Молдова, Грузия, Армения; в Казахстане на референдум был вынесен другой вопрос. Ведь все приведенное выше надо учесть!

Так что референдум, проведенный в СССР 17 марта 1991 года, — это чистейшая ложь и провокация.

К тому же результаты голосования не имеют силы закона.

**Михаил Владимирович СЕНЬКО, пенсионер.**

*Минск.*

НЕЗВЫЧАЙНЫ РАКУРС

# Нацыя вызначыць свой лёс

Паважаная "Народная Воля"!

Чуў, што рыхтуецца нейкі рэферэндум з мноствам пытанняў, якія хвалююць народ. Думаецца, што сёння рэферэндум трэба рыхтаваць толькі з адным пытаннем: "Ці згодны вы з тым, каб Беларусь перастала існаваць і ўвайшла ў склад Расіі шасцю губернямі?".

На фоне падзей ва Украіне гэтая прапанова, агучаная Пуціным, выглядае псіхалагічнай агрэсіяй, скіраванай супраць суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

За перыяд, які прайшоў з перабудовы, вырасла ўжо некалькі пакаленняў беларусаў, якія не зведалі "саўковасці". Можна быць упэўненымі, што сёння беларусы не аддадуць сваю незалежнасць і свой суверэнітэт ніякім "чалавечкам" — ні "зялёным", ні "чырвоным". Калі Нацыя вырашыць галоўнае пытанне свайго лёсу, то многія пытанні, якія сёння прапаноўваецца вынесці на рэферэндум, могуць зняцца з парадку дня.

Тым не менш беларусам абавязкова трэба зладзіць Маральную Рэвалюцыю. Савецкая камуністычная мараль — гвалт і знявага чалавечай годнасці — павінна быць заменена на мараль павагі чалавечай годнасці і знаходжання чалавека ў бяспецы. Гэта можна зрабіць праз спыненне выкарыстоўвання намі савецкіх стэрэатыпаў паводзін, напрыклад, праз спыненне сяброўства ў "школе камунізму", якую сёння ў Беларусі ўзначальвае Леанід Козік. Прафсаюз, які ён узначальвае, дапамог савецкай уладзе закабаліць працоўных. Ужо 20 гадоў існуюць беларускія незалежныя прафсаюзы, і мы павінны быць менавіта іх сябрамі.

Ёсць яшчэ некалькі дзеянняў, якія з'яўляюцца складнікамі Маральнай Рэвалюцыі, і на ўсе гэтыя дзеянні не трэба прасіць ва ўлады дазволу. За гэтыя дзеянні ўлада не ў стане пакараць чалавека.

Рэферэндум аб самавызначэнні нацыі — вось галоўны складнік Маральнай Рэвалюцыі, якую павінны абвясціць дэмакратычныя сілы. Для гэтага неабходна аб'яднаць намаганні ўсіх апазіцыйных прафсаюзаў, актывістаў "трэцяга сектара". Разам павінны паўстаць не тысячы, а мільёны беларусаў, якія здзейсняць Мірны Чын па рэальным забеспячэнні правоў Беларускай Нацыі на самавызначэнне.

**Валерый ГАРБАЦЭВІЧ.**

*г.Салігорск.*

